*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№11 (1574)**
Аўторак, 21 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

# Народная Воля

### *Надвор'е*

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, пераважна без ападкаў, месцамі на дарогах галалёдзіца. Вецер паўднёвы, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ў Гомелі — -1...-3, Магілёве — 0...-2, Мінску, Віцебску і Брэсце каля 0, Гродне 0...+2.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць. 22-га ўдзень па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, 23-га па заходняй палавіне краіны ападкі, месцамі туман, на дарогах галалёдзіца. Вецер паўднёва-ўсходні, 4—9 м/с, парывы да 14. Тэмпература паветра ўначы 0...-6, удзень -2...+3.



**ПУЛЬС**

## Прафесар Анатоль Грыцкевіч узначаліў Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 85-годдзя абвяшчэння БНР

Вядомы вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч узначаліў Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 85-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР).

Намеснікамі старшыні аргкамітэта сталі вядомыя літаратары Вольга Іпатава і Сяргей Законнікаў. Іх абранне адбылося на першым пасяджэнні аргкамітэта, якое прайшло ў Мінску.

## Раскрывайце «ценявы бюджэт»!

Незарэгістраваная беларуская грамадская арганізацыя "Малады фронт" распаўсюдзіла зварот у сувязі з прыняццем Указа прэзідэнта №16 "Аб дзяржаўнай падтрымцы грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі" (БРСМ).

Згодна з указам, Савету міністраў даручана разгледзець пытанне аб выдзяленні ў 2003 годзе з рэспубліканскага бюджэту сродкаў на распрацоўку праектнай дакументацыі і капітальны рамонт будынка па вуліцы К.Маркса, 40, у Мінску, які займае БРСМ. Міністэрству фінансаў даручана пры складанні праектаў рэспубліканскага бюджэту да 2006 года прадугледжваць у іх сродкі на выплату зарплаты работнікам кіруючых органаў БРСМ. Аналагічнае даручэнне дадзена мясцовым органам улады.

"Відавочна, што практыка "прыкормлівання" маладзёжнай наменклатуры мае на мэце падтрымку слабых пазіцый рэжыму сярод моладзі", — лічаць у "Маладым фронце". Аўтары звароту падкрэсліваюць, што грошы паабяцаны напярэдадні мясцовых выбараў, у якіх БРСМ "будзе адыгрываць значную ролю на баку ўлад".

"Малады фронт" патрабуе ад кіраўніка БРСМ Аляксандра Нахаенкі ў двухтыднёвы тэрмін абнародаваць бюджэт арганізацыі і "зразумела патлумачыць грамадскасці, куды пойдуць дзяржаўныя грошы". "У выпадку, калі БРСМ будзе ўтойваць звесткі аб камсамольскім "ценявым бюджэце", "Малады фронт" распачне ўласнае расследаванне і публікацыю атрыманай інфармацыі", — гаворыцца ў звароце.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Лятайце самалётам з Магілёва ў Маскву

З лютага адновяцца рэгулярныя паветраныя зносіны паміж Масквой і Магілёвам, спыненыя 12 гадоў таму.

Перавозкі пасажыраў будуць ажыццяўляцца самалётам Л-410. Кошт аднаго пералёту будзе складаць прыкладна 67 долараў ЗША. Для дзяцей прадугледжаны скідкі.

Мяркуецца, што самалёт з Магілёва ў Маскву і назад будзе лятаць кожныя панядзелак, сераду і пятніцу і прызямляцца ў маскоўскім аэрапорце "Шарамецьева".

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Дзве дзяўчынкі загінулі ў пажары

Двое дзяцей загінулі ў выніку пажару ў вёсцы Шашкішкі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці.

Каля сямі гадзін раніцы бацькі двухгадовай і трынаццацігадовай сясцёр пайшлі на працу, пакінуўшы дзяцей у замкнёнай хаце. Каля 11 гадзін пажар убачылі жыхары суседняй вёскі, што знаходзіцца на адлегласці ў паўтара кіламетра. Гэтым часам агонь паспеў перакінуцца ўжо на дах. Як лічаць спецыялісты, дзеці, якія знаходзіліся ўнутры, загінулі яшчэ да таго часу, як пажар удалося заўважыць.

Прычынай трагедыі, відаць, стала дзіцячае свавольства з агнём. Як мяркуюць ратавальнікі, у момант узгарання старэйшая дзяўчынка спала, а малодшая не змагла самастойна выбрацца з замкнёнага дома.

У вёсцы Шашкішкі з чатырох дамоў заняты толькі два; у другім жыве старая жанчына.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

**РЕПЛИКА**

## Редкий добрый жест

Перед началом заседания так называемого Высшего государственного совета (ВГС) союза Беларуси и России, которое завершилось вчера, президент России Владимир Путин встретился с Александром Лукашенко в формате "один на один". После встречи В.В.П. отметил, что Беларусь "прочно заняла" второе место в торговых отношениях с Россией после ФРГ. За 2002 год товарооборот между нашими странами достиг почти 10 миллиардов долларов". Это, по словам президента РФ, — "позитивная тенденция". Однако, — сказал Путин, — "есть и проблемы, которые мы можем устранить".

Российский лидер тепло поблагодарил своего белорусского визави "за добрый жест — возможность побывать дома" у Александра Лукашенко и в неформальной обстановке обсудить ряд вопросов. А.Г. в ответ, обращаясь к Владимиру Путину, отметил: "Вы — первый гость". Тем самым он подтвердил тот факт, что в гости к первому лицу белорусского государства более чем за восемь лет правления не зашел ни один человек. То ли Александр Григорьевич такой негостеприимный, то ли меняет резиденции, как перчатки?

На заседании самого ВГС Владимир Путин, не вспоминая свои прошлогодние слова про необходимость быстрейшего отделения "мух от котлет" подтвердил, что "Россия и Беларусь всегда были и будут едины в главном — придерживаться курса на создание союзного государства".

"Мы много в последнее время дискутировали о путях дальнейшего строительства нашего союза", — завил Путин, — но, несмотря на жаркие дискуссии по политическим вопросам, не упустили главное". Путин выступил также за ускорение введения российского рубля в качестве единой валюты России и Беларуси.

К слову, прошедшая в Минске встреча на высшем уровне сопровождалась невиданными ранее мерами безопасности. Даже на многочисленных саммитах лидеров стран СНГ, на которых, кстати, тот же Путин принимал участие, подобного "шухера", мне кажется, не наблюдалось. МВД даже разработал по этому поводу некий специальный план...

Кроме сотрудников ГАИ и милиции, не менее сотни одетых в гражданскую форму одежды "мальчиков" с рациями, окружили в понедельник утром все кварталы центра Минска, примыкающие к резиденции президента, блокируя движение транспорта и прохожих. В течение нескольких часов не работали "по техническим причинам" станции метро "Купаловская" и "Октябрьская"...

**Наталья ГАК.**

# «Ніякага саюза з Расіяй!»

*19 студзеня на Кастрычніцкай плошчы Мінска прайшла несанкцыянаваная акцыя, прымеркаваная да візіту ў Беларусь прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна.*

Група актывістаў апазіцыі прыйшла на Кастрычніцкую плошчу сталіцы, каб выказацца супраць планаў далейшай інтэграцыі Беларусі з Расіяй. У акцыі, у прыватнасці, прынялі ўдзел прадстаўнікі незарэгістраванага маладзёжнага аб'яднання "Малады фронт", былы член Партыі БНФ Вячаслаў Сіўчык, члены КХП — БНФ.

Удзельнікі акцыі разгарнулі 10-метровую расцяжку з заклікам "Рукі прэч ад Беларусі!", а таксама транспаранты з надпісамі "Ніякага саюза з Расіяй!" і "Пуцін, прасі прабачэння ў беларускага народа!". Апошні лозунг, як патлумачыў Вячаслаў Сіўчык, звязаны з адным з варыянтаў інтэграцыі, прапанаваным летась расійскім прэзідэнтам, — аб уваходжанні Беларусі на правах абласцей у склад Расійскай Федэрацыі. Пратэстуючы супраць падобных прапаноў, удзельнікі акцыі растапталі расійскі сцяг.

Акцыя доўжылася каля 20 хвілін. За ёй сачылі шматлікія супрацоўнікі праваахоўных органаў. Тут жа знаходзіўся і аўтобус з АМАПам. Але паколькі на плошчы прысутнічала вялікая колькасць журналістаў, удзельнікаў акцыі міліцыянты затрымліваць не сталі, а толькі адабралі ў іх расійскі сцяг.

Ноччу ў розных месцах сталіцы з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі. Вялізных памераў палотнішчы вывесілі на праспекце Францыска Скарыны — на будынку, дзе размяшчаецца рэдакцыя газеты "Вячэрні Мінск", і на вуліцы Казлова — на рэкламным шчыце нафтавай кампаніі "Лукойл", а таксама ў некаторых іншых месцах. Сцягі правіселі некалькі гадзін і прыкладна да 9-10 гадзіны раніцы былі знятыя міліцыяй.

**Андрэй СЕРАДА.**

**На снимке:** *российский и белорусский государственные флаги на фонарном столбе на столичном проспекте Скорины во время визита президента России 20 января 2003 года.*

**Фото IREX/ProMedia.**

## Сатанінскі напад

*У мінулую пятніцу быў жорстка збіты невядомымі Радзім Гарэцкі, акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук, чалавек, якога ведаюць далёка за межамі Беларусі. Зараз ён у цяжкім стане знаходзіцца ў 9-й клінічнай бальніцы Мінска, дзе яму была зроблена тэрміновая аперацыя.*

Каб адказаць на пытанне, хто здзейсніў гэтае злачынства і дзеля чаго, улічым наступнае.

Радзім Гаўрылавіч — выдатнейшы прадстаўнік знакамітага беларускага радаводу, які глыбокімі каранямі звязаны з нашай шматпакутнай зямлёй. Гэта яго бацьку сталіністы некалькі разоў прысуджалі да расстрэлу за тое, што ён быў носьбітам беларускай культуры, беларускай гісторыі і бачыў нашу краіну незалежнай, суверэннай.

Радзім Гарэцкі — пляменнік непаўторна таленавітага Максіма Гарэцкага, аўтар шэрага твораў, якія сталі беларускай класікай.

Аб антычалавечай сутнасці войнаў і іх знішчальнай шкоднасці для чалавецтва напісана мноства кніжак. Іх аўтарамі былі і такія геніі, як Віктор Гюго і Леў Талстой. Што тычыцца распрацоўкі гэтай лёсавызначальнай тэмы, то прозвішча Максіма Гарэцкага можна паставіць побач з імі. Заўважу: сваім артыкулам "Рускі" ён зрабіў тое, што не ўдавалася зрабіць нікому. За гэта і асабліва за твор "Дзве душы" ён быў расстраляны асатанелымі сталіністамі.

Нялёгкі лёс выпаў і на долю Радзіма Гарэцкага. Ён — адзін з найактыўнейшых змагароў сучаснасці за нацыянальнае адраджэнне Беларусі. Вось і ў той вечар Радзім Гаўрылавіч вяртаўся дахаты з пасяджэння арганізацыйнага камітэта па адзначэнні 85-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, што была абвешчана 25 сакавіка 1918 года. Як жа не назваць той напад сатанінскім?! Асабіста я лічу (і, думаю, што не памыляюся): напад на Радзіма Гарэцкага — гэта працяг камунабальшавіцкіх рэпрэсій супраць сукупнай душы беларускага народа, каранёў яго духоўнасці. Рэпрэсій, скіраваных на знішчэнне не толькі самастойнасці нашай дзяржавы, але і беларускага радаводу ў этнічных адносінах — каб і каранёў яго не засталося на гэтым свеце.

Звернем увагу на тое, што раней былі жорстка збітыя такія вядомыя людзі Беларусі, як Артур Вольскі, Адам Мальдзіс, Юрый Хашчавацкі, Валеры Мазынскі... Не хочацца верыць, што гэта справа рук звычайных бандытаў. Сапраўды, ці не працяг гэта дзеянняў тых "эскадронаў смерці", з якімі звязваюцца знікненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага?

**Аляксей САЛАМОНАЎ, прафесар, доктар тэхнічных навук, інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**

## Інтэлігенты Мінска — за суверэнітэт Беларусі

*Кансалідацыя ў імя будучага з'яўляецца галоўнай мэтай Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які мае адбыцца ў Мінску 16 лютага, — пра гэта гаворыцца ў рэзалюцыі, прынятай 19 студзеня на сходзе прадстаўнікоў інтэлігенцыі Мінска.*

Найбольш актуальнымі грамадска-палітычнымі праблемамі ўдзельнікі сходу лічаць "захаванне суверэнітэту і ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці, забеспячэнне годнага матэрыяльнага ўзроўню жыцця, правядзенне палітычных і эканамічных рэформаў, пераадоленне міжнароднай ізаляцыі краіны і ўваходжанне яе ў еўрапейскую супольнасць".

У рэзалюцыі зазначаецца, што "ў пераломны гістарычны момант", які перажывае краіна, "як ніколі востра паўстае пытанне аб месцы і ролі нацыянальнай інтэлігенцыі", якая "заклікана быць рэальным носьбітам нацыянальнай ідэі, служыць высокім ідэалам дэмакратыі, вяршэнства закона, свабоднага і годнага развіцця асобы".

"Вядома, што найбольш сумленная і адказная, верная свайму грамадскаму і патрыятычнаму абавязку частка беларускай інтэлігенцыі заўсёды імкнулася і імкнецца да таго, каб яе народ быў гаспадаром у сваім доме, сам распараджаўся сваім лёсам, валодаў сваёй сапраўднай дзяржаўнасцю. Менавіта дзякуючы набыткам беларускіх творцаў, навукоўцаў, педагогаў, інжынераў Беларусь як краіна існуе на культурна-цывілізацыйнай карце свету", — гаворыцца ў дакуменце.

Разам з тым, як прызнаюць удзельнікі сходу сталічнай інтэлігенцыі, "мы недастаткова дзейныя, скансалідаваныя і арганізаваныя для паспяховага выканання сваёй сацыяльнай і духоўнай місіі. У нашым асяроддзі назіраецца разлад, раскол, канфрантацыя — чыннікі, якія ў значнай ступені нейтралізуюць нашы добрыя намеры і пачынанні".

Аўтары рэзалюцыі гэтаксама выказалі занепакоенасць "праявамі абмежавання свабоды слова і іншых грамадзянскіх свабод, якія дагэтуль маюць месца ў нашым жыцці". Яны заклікалі ўлады "неадкладна прыняць захады для высвятлення праўды пра зніклых палітычных дзеячаў, вызвалення журналістаў — вязняў сумлення", а таксама запатрабавалі "спыніць адміністрацыйны ўціск пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў".

Удзельнікі сходу інтэлігенцыі Мінска прапаноўваюць уладам "будаваць узаемаадносіны з усімі краінамі, у тым ліку і з Расіяй, зыходзячы з інтарэсаў беларускага народа, недатыкальнасці суверэнітэту і незалежнасці Беларусі".

**Марат ГАРАВЫ.**

## Удзельнікі сходу інтэлігенцыі Мінска патрабуюць адстаўкі кіраўніцтва сталічнай міліцыі

*Удзельнікі сходу інтэлігенцыі Мінска, які прайшоў 19 студзеня ў Палацы мастацтва, запатрабавалі адстаўкі кіраўніцтва сталічнай міліцыі ў сувязі са шматлікімі фактамі насілля над вядомымі дзеячамі нацыянальнай навукі і культуры.*

У заяве ўдзельнікі сходу выказалі "абурэнне і глыбокую трывогу" ў сувязі са збіццём 17 студзеня ў Мінску вядомага беларускага геолага, акадэміка Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі і Расійскай Акадэміі навук Радзіма Гарэцкага.

Акадэмік быў жорстка збіты ля свайго дома, калі вяртаўся з пасяджэння аргкамітэта па святкаванні 85-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі. Прычым "фізічная расправа" над навукоўцам, які зараз знаходзіцца ў нейрахірургічным аддзяленні 9-й клінічнай бальніцы Мінска, была ўчынена, "як заўсёды, ціха і скрытна", гаворыцца ў дакуменце.

**Марат ГАРАВЫ.**

Народнаму артысту Беларусі **Міхаілу ПЯТРОВУ** — 65. "Народная воля" віншуе выдатнага сучасніка, зычыць яму здароўя і новых творчых поспехаў.

**Фота БелТА.**

**КОНФЛИКТ**

## Работу — китаянкам, солигорчанок — за борт!

*Бабий бунт на солигорской "Купалинке", о котором "Народная воля" сообщала на прошлой неделе, оказался весьма прелюбопытным. Руководящие мужики из столичного концерна "Беллегпром" появиться пред очами пышущих гневом работниц, видимо, посчитали опасным для своей репутации. Судя по всему, испугался сотрудниц и генеральный директор "Купалинки" Олег Грабек, потому как на заводскую территорию проник через черный ход: пройти через парадный мимо нескольких сотен возмущенных женщин, похоже, не рискнул.*

О том, как развивались события, рассказывает Татьяна Пахомчик, закройщица с 15-летним стажем:

— Директор прибыл с опозданием на два часа. Прессу, а это было обязательное условие инициативной группы по проведению собрания, пропустили, зато был дан приказ не допускать на территорию нас. Видимо, хотел таким образом сорвать собрание. И лишь увидев, что работницы собираются прорываться через проходную силой, распорядился разблокировать турникеты. Мы, конечно, были возбуждены, но применять физические меры к директору не собирались. Однако актовый зал был наводнен милицией: вдоль стен стояли люди в форме.

Как акционеры (т.е. хозяева. — **Авт.**), мы потребовали от директора доложить о предпринимаемых мерах по выводу предприятия из кризиса. То, что вознамерился делать Олег Грабек, нас не устраивает. Он уже закрыл на замок одну из двух фабрик открытого акционерного общества, оставив без работы вязальщиц, красильщиц, закройщиц. Ткань директор намерен закупать в Китае — там она дешевле. Возможно, это и так, только ведь "Купалинка" — это практически единственное "женское" предприятие в Солигорске. Создание рабочих мест в Китае за счет женской безработицы в Солигорске вряд ли можно назвать государственным подходом. Не говоря уже о том, что матерям, воспитывающим, как, например, я, детей без мужа, остаться без работы означает голодную смерть. А с 23 декабря прошлого года я безработная. Отправлена в "отстойник" с получением денег в сумме 2/3 тарифной ставки. За прошедший месяц на день "бунта" не получила ни копейки...

Председатель горисполкома Анна Лаврукевич, которая в октябре прошлого года заявляла, что если Грабек до Нового года не наладит производство, то будет отстранен от должности, теперь говорит, что не имеет права вмешиваться во внутренние дела "Купалинки", поскольку это акционерное общество. Не предпринимает, на наш взгляд, действенных мер и государственный концерн "Беллегпром", куда входит наше предприятие.

Что уж говорить про "команду" О.Грабека! К примеру, его протеже — заводской юрист — заявила акционерам: "Я не желаю с Вами разговаривать!"

Что нам теперь делать? Идти, как шахтеры, на Минск?"

Что и говорить, конфликт на солигорской "Купалинке" не из простых. Сотни женщин могут оказаться за проходной. Если учесть, что в городе действительно невозможно найти свободное рабочее место, то ситуация приобретает трагический характер. В таком случае не должно оставаться в стороне правительство.

**Валерий ЩУКИН.**

## Обокрали директора Комаровского рынка

В четверг днем злоумышленники проникли в квартиру директора Комаровки Виктора Мещанинова.

Когда конкретно и как долго они там находились, точно не известно. То, что в доме побывали незванные гости, первой обнаружила жена Мещанинова. Она сразу же сообщила о краже в местное отделение милиции.

Воры вынесли из квартиры все ювелирные украшения и деньги. А это 600 тысяч белорусских рублей, 4 тысячи российских и около 1700 американских долларов. По факту кражи в тот же день было возбуждено уголовное дело.

Расследованием занимается старший следователь по особо важным делам Ленинского района Минска Юлия Коваленко. Однако в РОВД Ленинского района отказываются от каких-либо комментариев, ссылаясь на то, что есть такое понятие, как тайна следствия. Пока дело находится в производстве, делать какие-либо выводы преждевременно.

В коммерческих кругах поговаривают, что воры не случайно заглянули в квартиру Мещаниновых. Якобы таким образом директору рынка отомстили предприимчивые молодые люди, с интересами которых не посчитался Виктор Михайлович. Тем более что в тот день в Ленинском районе Минска была зафиксирована только одна квартирная кража.

Но есть и другая версия. Это обычная квартирная кража. Действовали профессионалы, которые наверняка знали, что в квартире директора одного из крупнейших столичных рынков есть что взять.

К слову, каждый день в Минске совершается около десяти квартирных краж. В прошлом году зафиксировано 2900 подобных преступлений, в 2001 — на 496 случаев больше. Процент раскрываемости квартирных краж невысок. Даже тогда, когда есть свидетели ограбления, не всегда удается разыскать преступников. В прошлом году удалось раскрыть лишь 36,2% подобных случаев.

По словам Дмитрия Семкова, заместителя начальника следственного отдела РОВД Ленинского района, самая лучшая защита от квартирных воришек — сигнализация. "Во всяком случае в Ленинском районе Минска за последние девять лет не ограбили ни одну квартиру, которая взята под вневедомственную охрану. А кодовые замки в подъезде помогают только уборщицам. В таких подъездах меньше мусорят".

**Мария ЭЙСМОНТ.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ЭКСПЕРТЫЗА

# Страшэнны грэх Расіі...

**Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар**



Адышоўшы год не прынёс чакаемых поспехаў. За які паказчык ні вазьміся — усюды недабор ці прарэхі. Валавы ўнутраны прадукт нібы вырас на 4% замест 6% па прагнозе. Але як можна ацаніць гэты рост, калі, з аднаго боку, цягам года крэдыторская запазычанасць вытворцаў узрасла на 2,6 трлн. рублёў і дасягнула астранамічнай велічыні — 10,7 трлн. рублёў, а з другога — узрасла гара нерэалізаваных тавараў на сотні мільярдаў рублёў. Да таго ж зусім не ад працвітання за мінулы год запазычанасць прадпрыемстваў рэальнага сектара перад бюджэтам вырасла на 43%.

Летась працягваўся заняпад сельскай гаспадаркі. Прырост вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі склаў толькі 0,2%. І гэта нягледзечы на шматмільярдныя крэдытныя ўліванні ды дзяржаўныя субсідыі. Папракнуць урад у тым, што ён выдае субсідыі вёсцы, ніяк нельга, бо гэта сусветная практыка. У Злучаных Штатах, напрыклад, сельская гаспадарка па памерах фінансавання знаходзіцца на другім месцы пасля касмічных праграм.

Але справа ў тым, што эканамічная дапамога сельскай гаспадарцы павінна аказвацца прама, а не праз пасрэднікаў, як у нас. Аказваючы дапамогу сельскай гаспадарцы праз прамыя эфектыўныя формы, у развітых краінах зыходзяць з таго, што вытворчасць прадуктаў харчавання ёсць асноўная база фарміравання высокага жыццёвага ўзроўню. А ў нашай краіне ідзе тым часам скарачэнне пагалоўя жывёлы не толькі ў грамадскім статку, але і прыватным, чаго раней не назіралася. Дык на што мы можам разлічваць, калі нават бульба коштам 600 руб. за 1 кг становіцца недаступнай беднаму насельніцтву.

Улады маюць намер павялічыць, як і летась, вытворчасць ВУП (валавога ўнутранага прадукту) аж на 6%. Але як гэтага можна дасягнуць, калі інвестыцыі ў папярэднім годзе скараціліся да 9% ад ВУП (нават у 1998 годзе яны складалі 14%). Дык на які рост можна разлічваць? На 6%, якія адзін эканаміст назваў проста рэкордам. Дык нам сёння не да рэкордаў. А фактычна пры той базе, якая ў нас ёсць, можна разлічваць на прырост не болей як 3—4%.

Адсюль і разлікі на рост дабрабыту народа. Тут карціна змрочная. Справа ў тым, што павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі было перад новым годам настолькі значным, што кватэранаймальнікі адчуюць гэта ўжо ў студзені, тым болей што на перадпнавагоднім павышэнні кропка не пастаўлена. Трэба ўлічваць і той факт, што дасягнуты сярэдні ўзровень заработнай платы ў эквіваленце 100 долараў — даволі спрэчны паказчык. Калі дэвальвацыя долара ў 2001 годзе дасягнула 11% і была зусім не меншай у мінулым годзе, то трэба ўлічваць пакупніцкую розніцу долара год назад і зараз.

Значыць, фактычна сёлета трэба яшчэ дасягнуць 100-доларавага ўзроўню заработнай платы 2001 года ў доларавым эквіваленце. Тым болей што працягваецца дэвальвацыя беларускага рубля, растуць цэны і не відаць, каб гэты негатыўны працэс быў прыпынены. Пенсіянерам таксама няма з чаго чакаць паляпшэння свайго дабрабыту. Інфляцыя не спыняецца! Пад яе ўздзеяннем давялося акругляць цэны і вывесці з абарачэння рублёвую купюру. Зараз мы маем валюту не толькі без капеек, але і без рублёў.

Няма падстаў чакаць паляпшэння і ад развіцця эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Паводле даных за 2002 год, Расія мае такі ж паказчык росту ВУП, як і Беларусь, — 4%. і гэта нягледзячы на шматмільярдны прафіцыт (перавышэнне даходаў над расходамі) дзяржаўнага бюджэту. Словам, Расія сядзіць на нафтавай іголцы. Як толькі сусветныя цэны на нафту знізяцца, нашай суседцы немагчыма будзе ўтрымліваць нават тыя нізкія тэмпы росту, якія дасягнуты. Тым болей што трацяцца мільярды рублёў на вядзенне грамадзянскай вайны ў Чэчні, якой не відаць канца.

Гульні вакол стварэння саюзнай дзяржавы нічога беларускаму народу не дадуць. Нелегітымныя міжпарламенцкія сходы, пасяджэнні нейкай Саюзнай Рады і ўрада не маюць юрыдычнага права што-небудзь рашаць, тым болей датычнага лёсу беларускага народа.

Трымаю ў руках выдадзеную 2 месяцы таму кнігу расійскага акадэміка-эканаміста Дзмітрыя Львова "Эканоміка развіцця". Там чорным па белым напісана, што размеркаванне даходаў у Расіі ажыццяўляецца як амаральная акцыя. Менавіта 20% даходаў размяркоўваецца на капітал, 75% у форме рэнты, якую захапілі алігархі, і толькі 5% — гэта даход па працы. Д.Львоў піша: "Гэта ў вышэйшай ступені амаральная акцыя разбурае гістарычнае ўяўленне людзей аб сацыяльным міры і справядлівасці, зафіксаваныя ў свяшчэнных паданнях народа. Адсутнасць роўнага доступу для ўсіх да таго, што ў Расіі ад Бога, з'яўляецца найцяжэйшым грахом". І далей аўтар падкрэслівае: "Не замаліўшы гэтага граху, мы ніколі не можам забяспечыць будучыню нашай краіны, яе народа. Крыміналізацыя эканомікі, неверагоднае сацыяльнае расслаенне насельніцтва па ўзроўні даходаў, буйнамаштабная беднасць, усёпаглынальны манапалізм улады і вытворцы, незаконная хваля банкруцтваў, неапраўданае накапленне фінансавых рэсурсаў у банках пры безграшоўі рэальнага сектара эканомікі, пасрэдніцтва і бартэр — з'яўляюцца яго прамым наступствам".

Дык няўжо беларускі народ пажадае ўвайсці ў нейкую адзіную дзяржаву, каб прыняць удзел у падзеле 5% даходаў па працы? Ніколі! Няхай найперш расійскі ўрад разам з прэзідэнтам і алігархамі замоляць свае страшэнныя грахі!

**Ксенія ЗЕНЬКОВІЧ** вучыцца ў Віцебскім медыцынскім вучылішчы на медсястру. А яшчэ яна — салістка ансамбля класічнага танца "Піруэт".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

ПУЛЬС

## Прадпрыемствам загадалі ратаваць калгасы

Брэсцкі аблвыканкам даvёў выканкамам вобласці заданні па аказанні прамысловымі прадпрыемствамі і арганізацыямі бязвыплатнай дапамогі калгасам у набыцці паліва.

Так, Пінскаму гарвыканкаму трэба сабраць з размешчаных на тэрыторыі горада суб'ектаў гаспадарання 2540 тон паліва альбо грошы на яго пакупку і перадаць з іх 1870 тон гаспадаркам Пінскага раёна, а 670 тон накіраваць калгасам суседняга Столінскага раёна. Пінскаму райвыканкаму даведзена заданне ў аб'ёме 220 тон.

У Пінску гарадская вертыкаль ужо размеркавала ўвесь аб'ём дапамогі сялу паміж 130 прадпрыемствамі і арганізацыямі горада прапарцыянальна колькасці людзей, што на іх працуюць. Напрыклад, працоўнаму калектыву са 120 чалавек патрэбна аддаць калгасам ад 15 да 20 тон паліва. Затраты для яго набыцця складаюць у сярэднім месячны фонд заработнай платы. Устаноўлены строгі графік выканання задання. Да 1 лютага павінна быць перададзена сялу 20 працэнтаў ад даведзенага аб'ёму дапамогі, да сакавіка — 50, да красавіка — 70, да мая — усе 100 працэнтаў.

Кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў і арганізацый Пінска з абурэннем сустрэлі дырэктыву ўладаў аб абавязковай бязвыплатнай дапамозе сялу. Мала ў каго ёсць свабодныя грошы на рахунку. Акрамя таго, ніхто не выключае, што за згаданай дырэктывай можа паступіць новая, якая абавяжа ўдзельнічаць у нарыхтоўцы кармоў для калгаснага пагалоўя.

**Павел КУНІЦКІ.**

## У Жодзіне асуджаны шэсць чыноўнікаў гарвыканкама

Супрацоўнікамі Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі арыштаваны і змешчаны ў следчы ізалятар ГУУС Мінгарвыканкама дырэктар Жодзінскага Дома гандлю. Ён падазраецца ў раскраданні дзяржаўных сродкаў і іншых злачынных эпізодах.

Усяго ж на працягу 2002 года, пасля праверкі міліцыяй дэпутацкіх запытаў Аляксандра Валчаніна, былі ўзбуджаны крымінальныя справы ў адносінах да шасці чыноўнікаў Жодзінскага гарвыканкама. Сярод іх работнікі аддзелаў — жыллёвага, адукацыі, сацыяльнай абароны, а таксама галоўны ветурач горада. Паводле звестак следства, яны раскрадвалі гуманітарную дапамогу, будматэрыялы, атрымлівалі хабар грашыма і прадуктамі харчавання. Дырэктар мясцовага Дома гандлю стаў сёмай "ахвярай" барацьбы з карупцыяй Аляксандра Валчаніна і яго аднадумцаў па дэпутацкім корпусе.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ.**

НЕПРИЧЕСАННОЕ ПИСЬМО

## Спасибо за правду, «Народная воля»!

Получая в этом году "Народную волю", я, как и всегда, с жадностью и нетерпением прочитываю каждый номер. Все-таки есть у нас люди, которые не боятся говорить правду! Горжусь вами, народовольцы, что, даже испытывая всяческие притеснения, вы все равно работаете для нас, читателей. Правда, есть еще такие, кто боится выписать вашу газету, а выписывают те газеты, которые непонятно, в какой стране печатаются: там больше пишут про Россию, чем о наших делах.

Очень интересно мне читать в "Народной воле" материалы по истории Беларуси, а также письма простых граждан. И вообще вся газета интересная и нужная. Согласен с вами: мы хотим лучшей жизни, так кто же должен ее нам дать, если мы сами не стараемся ее улучшить?

Дорогая редакция, печатайте больше статей-подсказок о том, как выйти из положения, в которое завели нас коммунисты. Разорили страну и теперь боятся, что за все сделанное надо будет отвечать. Как вспомнишь свою деревеньку, где было много домов и в каждом доме дети, которые учились у родителей любить землю и хорошо трудиться, то становится не по себе: все теперь в упадке. Были в деревне когда-то толковые хозяева, которые строили крепкие дома, хозяйственные постройки, давали работу сельчанам. А когда силой всех загнали в колхозы и заставили бесплатно работать, то возглавили эти колхозы выходцы из России или свои бездельники-лентяи. Все покатилось под откос. Как страшно было смотреть, когда отличные строения ломали, а наших, прежде ухоженных лошадок, "обобществленных" и заморенных голодом, подвязывали на веревках, чтобы не упали. Такое невозможно забыть. Мы рассказываем внукам обо всем этом. Нас всех разорили и сделали бедняками. И это считалось правильным.

Подумайте, кто поедет теперь спасать деревню? Руководители хозяйств получают регулярно зарплаты, а те, кто вкалывает на полях и фермах, не получают свои жалкие гроши по нескольку месяцев.

Да и в городе жизнь ненамного лучше. Идешь на работу, как на каторгу. Работаешь за копейки. А пенсионеры и вовсе в отчаянии. За квартиру заплати, за лекарства, да еще за посещение врача скоро, говорят, введут плату, проезд льготный отменят. А как жить? Хоть помирай.

Впрочем, так нам, пенсионерам, и надо, ведь это мы в свое время рьяно поддерживали на выборах того, кто привел нас к самому краю. К чему теперь оправдываться: мол, не знали, как лучше? А чтобы знать, могли, между прочим, хотя бы в складчину выписывать свою защитницу "Народную волю". Так нет, и теперь боятся, что за это у них пенсию отберут. Кто отберет, по какому праву? "Народная воля" — правдивая газета.

Скажу еще вот о чем. Если согласимся, что наш нынешний вождь пойдет на третий срок, то, дорогие людцы, хана нам всем будет. Проедешь по деревням — хаты пустые стоят. Зато в чиновничьих кабинетах народу хватает. Парламент наш не решает проблем народа. Только и свет в оконце, что "Народная воля". Спасибо ей, Иосифу Середичу за мужество, за то, что они есть!

**А.ЯНКОВСКИЙ, пенсионер, житель Минска.**

ТОЧКИ НАД «І»

## Трест, но не тот

15 января с.г. в "Народной воле" была опубликована корреспонденция "Нас объединила бесхозяйственность". Рассказывая в ней о плохой организации труда в строительном управлении №94, к сожалению, из-за неразборчивого написания автором оно ошибочно причислено к тресту №4. На самом деле управление №94 входит в стройтрест №1. В связи с этим приносим свои извинения читателям газеты и коллективу треста №4.

## «Лёгкія» цыгарэты з Гродна

У 2003 годзе гродзенская тытунёвая фабрыка "Нёман", якая летась адзначыла 140-годдзе, плануе выпусціць як мінімум дзевяць новых відаў цыгарэт.

Улічваючы тэндэнцыю пераходу беларускіх курыльшчыкаў да цыгарэт з больш нізкім утрыманнем смол і нікаціну, на аснове традыцыйных і новых марак "Нёмана" будуць распрацаваны "лёгкія" і "суперлёгкія" цыгарэты. Так, у другім паўгоддзі ў продажы павінны з'явіцца "Магнат лёгкі", "Прэм'ер лёгкі", "ГТФ лёгкі", а таксама новыя маркі "1861", "Карамболь" і дамскія цыгарэты "Элегія".

**Лавінія АРЭШКА.**

## Філіял Беларускай акадэміі музыкі ў Віцебску

У наступным навучальным годзе на базе Віцебскай музычнай вучэльні імя Івана Салярцінскага адкрыецца філіял Беларускай акадэміі музыкі.

У Віцебску будуць дзейнічаць філіялы кафедраў фартэпіяна, народных інструментаў і музыказнаўства акадэміі. Галоўная мэта стварэння філіяла — падрыхтоўка музычных кадраў з вышэйшай адукацыяй для Віцебскай вобласці.

Першы набор навучэнцаў філіяла акадэміі музыкі ўжо вызначаны. Яго складуць дзесяць чалавек. У асноўным гэта выпускнікі Віцебскай і Наваполацкай музычных вучэльняў.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**



19 января православные христиане Беларуси отмечали Крещение Господне. Во всех храмах прошли торжественные богослужения и освящение воды. **На снимке:** *праздник Крещения в Минском Доме милосердия.*

**Фото Виктора Толочко, БелТА.**

## Аляксандр Рыгоравіч, пакажыце, нарэшце, нам, як збівалі дэпутатаў

Не-не ды і ўспомню... 1995 год. Авальная зала Вярхоўнага Савета. На падлозе — група дэпутатаў. Яны праводзяць галадоўку ў знак пратэсту супраць парушэння законаў з боку выканаўчай улады. Расчыняюцца дзверы. У залу ўрываюцца людзі ў форме і нападаюць на дэпутатаў: штурхаюць іх, дубасяць...

Апазіцыянеры з траўмамі і кровападцёкамі нахабным чынам былі выдалены з залы пасяджэння Вярхоўнага Савета. На наступныя суткі "аперацыю" гэту каменціраваў па тэлебачанні сам А.Лукашэнка. Ён сказаў усёй краіне, што будынак Вярхоўнага Савета знаходзіцца на асобым рэжыме аховы і што апазіцыянеры былі п'яныя, вакол валяліся горы пустых бутэлек ад гарэлкі і што "пратэстанты" былі ўзброены нажамі. Каб слухач прыняў гэту інфармацыю як бездакорную, А.Лукашэнка дадаў: **"Завтра я вам покажу все это по телевидению".**

Ён распаліў маю цікаўнасць, і, помню, я назаўтра падчас тэленавін літаральна прыліп да экрана.

Але абяцанай "карцінкі" не было... І няма. Прайшло аж 8 гадоў — яна так і не з'явілася. Тое, што адбывалася і было знята на кінаплёнку, для народа (які мае права ведаць) засталося таямніцай...

Ну, а хіба не ахутана таямніцаю знікненне вядомых у краіне людзей — Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, Завадскага? Вы толькі ўдумайцеся: выкрадальніка Дзімы Завадскага знайшлі і асудзілі, а вось што гэты бандзюга ўчыніў з Дзімам, следству і суду гэта не цікава!

Як бачыце, таямнічасць увайшла ў практыку нашай улады. Але мне такая практыка не падабаецца. Аляксандр Рыгоравіч, успомніце сваё даўняе абяцанне і пакажыце, нарэшце, нам, як збівалі дэпутатаў.

**Віктар СКАРАХОД, пенсіянер, жыхар Мінска.**

СУД

# Человек зоны

*Директор Полесского радиационно-экологического заповедника Николай Воронецкий сел на скамью подсудимых вместе с сенатором Рахманько. Сел добровольно, ибо как ликвидатор он "неподсуден". Утверждает, что имеет право на амнистию еще до вынесения судебного приговора.*

*Обвиняют же Н.Воронецкого в организации незаконной охоты на территории заповедника для Виктора Рахманько. Тогда, в 1999 году, Рахманько не сидел на скамье подсудимых, а был начальником железной дороги, сенатором и вообще, как говорят, птицей высокого полета. Если принять во внимание, что именно "беларуская чыгунка" связывает Россию с Западом, важность и ответственность должности начальника БЖД становится очевидной. Впав в немилость и оказавшись под судом, Рахманько вольно или невольно "потянул" за собой и других, в том числе и директора радиационного заповедника. И теперь суд "раскручивает" эпизод незаконной охоты на территории заповедника. В зоне, при высоком уровне радиации, охота в традиционном смысле этого понятия запрещена. В данном случае речь идет об отстреле животных с исследовательской целью. Понятия "охота" и "отстрел" обвинители — от незнания, непонимания или по злому умыслу — непростительно спутали. Так Воронецкий оказался подельником по "делу Рахманько".*

### Сталкеры

Зверей в зоне отстреливают. В строго научных целях, чтобы взять анализы для изучения уровней накопления радиации. Истинному же охотнику важен сам процесс охоты: выслеживание, погоня, выстрел. Даже если попадет в цель, трофеев не получит. Над животными "поработают" ученые, а мясо и шкуры будут похоронены в специальных могильниках.

Пару лет назад Воронецкий взял на отстрел с использованием вертолета страстного охотника Виктора Рахманько. Заодно Рахманько собирался осмотреть сверху железнодорожную ветку длиной 12 километров, которая в теплое время года может стать пожароопасной. Пожары в зоне не редкость, но с огнем на большие расстояния переносятся радиоактивные частицы. Потому и взяли вертолет, закрепленный за заповедником. К тому же, в воздухе уровень радиации гораздо меньше, чем на земле. В тот день ранили кабана и лося. Животных еще живыми передали в лаборатории заповедника и Гомельского института радиологии для специальных анализов. Разрешение на отстрел животных у Николая Воронецкого было, а так как у зоны специальный статус, обычно для этих целей используется вертолет. Однако прокуратура утверждает, что Воронецкий организовал для сенатора "незаконную охоту" и на этом основании привлекла его к уголовной ответственности. Сам Николай Николаевич говорит, что следователь Воропаев уговаривал его дать показания на Рахманько: "Будут показания — отпустят вас на все четыре стороны. Лично вы прокуратуру не интересуете".

В конце минувшего года коллегия Комитета по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС при Совмине обсуждала состояние дел в Полесском экологическом заповеднике. Разговор шел целенаправленный —о серьезных упущениях в работе директора заповедника Николая Воронецкого. Но, как утверждает сам Воронецкий в служебной записке на имя председателя Комчернобыля, "Выданное приглашенным на коллегию решение коллегии еще до ее начала показывает, что по данному вопросу произошел сговор, и основная причина — это судебное разбирательство, в котором меня обвиняют в организации незаконной охоты для бывшего начальника Белорусской железной дороги Рахманько". У начальника БЖД, как уже говорилось, были две причины появиться в заповеднике. Инспекция ветки железной дороги и отстрел диких животных. Положим, в эту версию можно верить или не верить, но с юридической точки зрения она безукоризненна. Вместе с егерем заповедника и специалистами Института радиологии Академии наук на вполне законном основании Рахманько и сопровождающие его лица отстрелили лося и кабана. Именно это и стало поводом для привлечения к суду Николая Воронецкого.

### «Чернобыль взорвался на фоне неподготовленного сознания»

Так писала Светлана Алексиевич в книге "Чернобыльская молитва". Тех, кто живет в зоне отчуждения, можно смело называть сталкерами. И до сих пор, спустя 17 лет после взрыва, сознание обывателей остается "неподготовленным", чтобы адекватно оценить, каково это — жить в зоне.

Воронецкий закончил Белорусский технологический институт и приехал в Хойники в 1985 году. За год до катастрофы родилась его старшая дочь, потом появились еще трое детей. По минским меркам многодетная семья. Для зоны — обычная история. Женщины, которые не могли забеременеть на "чистых землях", в Хойниках и Брагине рожают детишек. Природа воспроизводится. Всплеск деторождения и у животных. Лосихи приводят по два малыша, бывает и трое. Волков в заповеднике вдесятеро больше, чем положено по норме для такой площади. Время от времени их отстреливают, но они все равно активно размножаются. Запредельные уровни радиации —от 40 до 350 кюри на квадратный километр, в зависимости от зон, на которые поделен заповедник. В заповеднике работают ученые, егеря, лесничие. Работа в зоне не способствует долгой и здоровой жизни. Из 520 постоянно работающих в зоне за последние 10 лет умерло 63 человека. Подавляющее большинство из-за раковых и сердечно-сосудистых заболеваний. Около 100 человек не прошли профосмотры и получили группы инвалидности, как говорят медики, — связанные с аварией на ЧАЭС.

Память о ядерной катастрофе уходит. Все чаще чиновники позволяют себе "забывать" о тех, кто живет и работает в зоне. Сразу после катастрофы зарплата в заповеднике была втрое больше, чем на чистых территориях, сейчас снизилась почти вдвое, да и ту задерживают. За минувший год в заповеднике работали — разово или постоянно — свыше 5 тысяч человек. Но зато на реках зоны хорошо ловится рыба. Браконьеров-рыболовов спецотряды заповедника ловят, составляют протоколы (около 430 протоколов за прошлый год). Часто бывают пожары. Но снабжение стало из рук вон плохим. Нет самого необходимого. В Хойниках в 2001 году работники заповедника получили 122 хлопчатобумажных костюма, а в прошлом — втрое меньше. В Брагине и Наровле — меньше в пять раз. Кирзовые сапоги в зоне необходимы. Но в прошлом году лесники Брагина и Чикаловского лесничества получили всего 15 пар. Для сравнения: в 2001 году — 438. Валенки этой холодной зимой вообще не получали. Зато удалось урвать 5 халатов и даже один фартук. С каждым годом ситуация ухудшается. К слову, нормативы использования спецодежды в радиационной зоне очень экономные, как на обычном "цивильном" заводе. Утепленные брюки и куртки "для работы на открытом воздухе" выдаются на полтора года. В августе прошлого года, в самый разгар пожаров, заповедник практически не получал "сапоги кирзовые, сапоги резиновые, брюки и куртки утепленные". Такая же ситуация со средствами индивидуальной защиты и прочим "мягким инвентарем". А вот цитата из прошлогоднего письма Н.Н.Воронецкого в Минфин республики: "...для работы персонала в зоне радиоактивного загрязнения необходимо наличие индивидуальных дозиметров (накопителей) по определению дозы внешнего облучения. На сегодняшний день еще не проплачены работы по определению дозы внешнего облучения... Установление сухой и жаркой погоды... может повлечь за собой распространение радионуклидов на другие территории..."

### Мы все — заложники Минфина

Так считает Воронецкий. И уточняет: Минфин собирает народные средства на возведение ледовых дворцов, но о самой серьезной угрозе в стране забывает. "На сегодняшний день остро стоит вопрос о выплате заработной платы нашим работникам до конца текущего года", пишет он в Минфин и Комчернобыль.

Пожалуй, будет справедливо утверждать, что Воронецкий — заложник "чернобыльской системы". В конце прошлого года у него закончился рабочий контракт. На коллегии Комчернобыля было принято решение контракт с Воронецким не продлевать: кому нужны "подсудные" руководители? Но и до того, как его вписали в "дело Рахманько", отношения между Воронецким и руководством Чернобыльского комитета, региональным начальством Гомельщины не были безоблачными. Например, Воронецкий был против того, чтобы передать право выписывать пропуска в зону администрации Гомельской области. Однако, утверждает он, все больше и больше народу наезжает в зону порыбачить на Припяти. Лесничие неоднократно гоняли рыбаков-браконьеров, отнимали у них сети. Однако, замечает Николай Воронецкий, "мои попытки наладить с администрацией зон отчуждения Комчернобыля систему выписки пропусков ни к чему положительному не привели".

В служебной записке на имя председателя комитета он пытается обратить внимание руководителей ведомства на бесконечные финансовые проблемы зоны. Вот уже три года доказывает, что сотни километров построенных с большим трудом и затратами противопожарных линий и разрывов требуют ухода. В прошлом году заповеднику на эти цели была выделена лишь седьмая часть запрашиваемых средств.

Недостаточное финансирование для поддержания хрупкого экологического равновесия радиационного заповедника — лишь одна из проблем, которые волнуют директора. Увы, уже, кажется, бывшего. "Я каждый день езжу на судебные заседания в Минск. Отсюда управлять заповедником невозможно, а суд будет длиться еще не один месяц. Поэтому после окончания контракта я собирался уволиться. Постоянное запугивание — мы тебя посадим! — и другие способы давления сказались на моем здоровье. Решение данной коллегии меня оскорбило до такой степени, что я имею полное право обратиться в суд и к президенту Республики Беларусь А.Г.Лукашенко. Не продлив со мной контракт, вы не снимете те проблемы, которые накопились из-за недостаточного финансирования".

...Валентин Борисевич, бывший заведующий лабораторией Института ядерной энергетики НАНБ, говорил: "Мы Чернобыль не забыли, мы его не поняли. Что дикари могли понять в молнии?" Вот потому-то и "финансирование недостаточное", и директор заповедника сидит на скамье подсудимых.

**Ирина ДЕНИСОВА.**

